# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 6 (77) Чэрвень 2013 г.


## Справа шпіёна Гайдукова развалілася?

Старшыня КДБ **Валер Вакульчык** ня вытрымаў. «Шпіёнская справа», якую з такой радасцю вёў КДБ у дачыненьні да апэратара наваполацкага «Нафтану» **Андрэя Гайдукова**, падобна, скончылася. Замест яе будзе нейкае іншая справа. Пра гэта Вакульчык заявіў 19 чэрвеня журналістам.

Нагадаем, працэс над Гайдуковым праходзіць у Віцебскім абласным судзе ў зачыненым рэжыме. Вялікай праблемы ў гэтым Вакульчык ня бачыць: *«Няма сумненьняў, што ўсё будзе аб'ектыўна. Ніхто нічога хаваць ня будзе, за выключэньнем дзяржаўнай таямніцы»*. Гаворачы пра магчымае пакараньне абвінавачанага, Вакульчык сказаў: *«Гэта можа вырашыць толькі суд»*. Пры гэтым ён адзначыў, што *«ня факт, што гэта будзе артыкул 356»*.



Артыкул 356 КК - здрада дзяржаве, паводле якога абвінавачваецца Гайдукоў, прадугледжвае пакараньне ад сямі да 15 гадоў пазбаўленьня волі. Тое, што Вакульчык заявіў пра магчымую зьмену артыкулу, азначае, што ён зь вялікай доляй імавернасьці будзе зьменены. Бо непасрэдна Вакульчык «руліць» гэтым працэсам. Успомнім хаця б той факт, што за два тыдні да пачатку працэсу Вакульчык сказаў, што ён пройдзе ў зачыненым рэжыме. У выніку так яно і адбылося, хаця паводле ўсіх працэсуальных нормаў рашэньне аб зачыненасьці або адчыненасьці працэсу павінна прымаць судзьдзя - і толькі пасьля пачатку працэсу і згодна з хадайніцтвам аднаго з бакоў.

У сувязі з заявай Вакульчыка праваабаронца **Алег Воўчак** сказаў, што справа Гайдукова было настолькі дрэнна змайстраваная, што развалілася нават у зачыненым судзе: *«Асноўная частка працэсу ўжо прайшла. Судзьдзя паслухала абвінавачваньне, заслухала некаторых сьведак з боку абвінавачваньня, змагла азнаёміцца з матэрыяламі справы. І Вакульчык загаварыў пра яе перакваліфікацыю нездарма - бо складу злачынства паводле «здрады Радзіме» там нямашака. Няма там ніякага шпіянажу, а таму справа будзе перакваліфікаваная на іншыя, больш мяккія артыкулы»*.

На ягоную думку, Гайдукову могуць прад'явіць толькі два падобныя артыкулы КК: *«Гэта будзе альбо частка 2 артыкулу 361 КК (Заклікі да дзеяньняў, накіраваных на шкоду зьнешняй бясьпецы Рэспублікі Беларусь, яе сувэрэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасьці, нацыянальнай бясьпецы і абараназдольнасьці), накіраваныя да замежнай дзяржавы) - пакараньне паводле яе альбо арышт на шэсьць месяцаў, альбо пазбаўленьне волі да трох гадоў. Альбо яшчэ ні разу не апрабаваны на практыцы артыкул 369-1 (дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь). Паводле яго выносілася шмат папярэджаньняў, але ні разу нікога не судзілі. Яго санкцыі - арышт на тэрмін да шасьці месяцаў або пазбаўленьне волі на тэрмін да двух гадоў»*.

*«Пытаньне толькі ў тым, што абодва гэтыя артыкулы маюць відавочны прысмак «палітычных» - паводле артыкулу 361 КК у жніўні 2007 году быў асуджаны да двух гадоў пазбаўленьня волі бізнэсовец і палітык **Андрэй Клімаў**. Варта адзначыць, што гэта была першая крымінальная справа, распачатая за артыкулы, апублікаваныя ў інтэрнэце, - на сайце ucpb.org. А артыкул 369$^1$ КК настолькі расплыўчаты і адыёзны, што праваабаронцы патрабуюць яго адмены, нават не чакаючы практыкі яго прымяненьня»*.

Трэба браць пад увагу хвалю салідарнасьці, якая праявілася ў грамадстве пасьля пачатку працэсу над Гайдуковым: *«Праваабаронцы, СМІ, проста неабыякавыя грамадзяне задаюць уладам нязручныя пытаньні. Чаму суд зачынены? За што Гайдукова судзяць? Якое яго абвінавачаньне? І мноства іншых. Улады адказаць на іх ня могуць, але ацэньваюць грамадзкую думку. І, бачачы, што гэтая думка не на іх карысьць, спрабуюць "зьмяніць пласьцінку. Дык што нельга казаць пра тое, што ад нашай салідарнасьці нічога не залежыць. Залежыць, і яшчэ як»*.

У сувязі з гэтым чыннікам Волчак мяркуе, што ў працэсе могуць адбыцца дзьве кардынальныя зьмены. Першае: альбо суд, альбо бок абвінавачваньня перакваліфікуюць абвінавачаньне на больш мяккае. Перакваліфікаваўшы ж абвінавачаньне, суд скарыстаецца другім сваім правам: улічваючы асобу абвінавачанага, адсутнасьць судзімасьцяў, узважыўшы ступень яго небясьпекі для грамадства, якая будзе прызнана ледзь не нулявой, прызначыць пакараньне Гайдукову «менш за найменшае», гэта значыць менш за мінімальную планку, прадугледжаную артыкулам КК. І Гайдукоў можа быць прысуджаны альбо да пазбаўленьня волі ўмоўна, альбо да абмежаваньня волі з накіраваньнем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу - гэта значыць да «хіміі». Зусім ужо прызнаць Гайдукова невінаватым - гэта значыць проста «забіць» Вакульчыка. Суд на гэта пайсьці ня можа.

Вакульчык перад пачаткам працэсу над Гайдуковым казаў прэсе: *«Я думаю, што пасьля таго, як будзе абвешчанае рашэньне суду, тыя людзі, якія яго абаранялі, апынуцца ў нязручным становішчы»*. Пакуль што ў няёмкім становішчы знаходзіцца сам Вакульчык.

# Саветам дэпутатаў і выканкамам ёсьць што хаваць ад БНФ?

**Службоўцы віцебскага абл- і гарвыканкамаў, абласнога і гарадзкога саветаў дэпутатаў не задаволілі просьбу старшыні партыі БНФ вобласьці Леаніда Аўтухова аб тым, каб сябры партыі маглі прысутнічаць на паседжаньнях згаданых органаў улады. Прычына: маўляў, няма прававых падстаў для пастаяннага ўдзелу прадстаўніка партыі БНФ у паседжаньнях.**

Варта зьвярнуць увагу на адну акалічнасьць. Па сутнасьці, Леанід Аўтухоў атрымаў не чатыры розныя адказы, а адзін і той жа адказ у чатырох асобніках, толькі за рознымі подпісамі: чыноўнікі гарадзкіх і абласных выканкамаў і саветаў дэпутатаў слова ў слова паўтараюць адзін аднаго, аж да косак і граматычных памылак — іх лісты маюць адрозьненьні толькі ў назвах органаў, зь якіх яны атрыманыя, і пераліку прававых дакумэнтаў, у адпаведнасьці зь якімі яны ладзяць свае паседжаньні.

Згодна з законам «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусь», «сэсія Савету праводзіцца адкрыта і публічна». Вызначае гэты закон і тое, хто можа прысутнічаць на паседжаньнях выканкамаў: «На паседжаньнях выканаўчага і распарадчага органу ва ўстаноўленым парадку могуць прысутнічаць прадстаўнікі іншых дзяржаўных органаў і іншых арганізацыяў, органаў тэрытарыяльнага грамадзкага самакіраваньня, а таксама грамадзяне».

Такім чынам, калі, як абвяшчае закон, усё «адкрыта і публічна», калі «могуць прысутнічаць... грамадзяне», дык, здаецца, нішто не замінала кіраўнікам саветаў і выканкамаў задаволіць просьбу лідэра БНФ. Якія «прававыя падставы» ім для гэтага яшчэ патрэбныя? А магчыма, дэпутаты саветаў і прадстаўнікі вэртыкалі ўлады на сваіх паседжаньнях абмяркоўваюць нейкія таямніцы, якія нельга раскрываць сябрам апазыцыйнай партыі?

# У Віцебску страйкавалі прадпрымальнікі

**На рынках і ў гандлёвых цэнтрах Віцебску 6 чэрвеня было бязьлюдна: прадпрымальнікі, якія гандлююць прамысловымі таварамі, ня выйшлі на працу. Гэтак яны пратэстуюць супраць патрабаваньняў тэхнічнага рэглямэнту Мытнага саюзу, які лічаць чарговым вымаганьнем грошай у дзяржаўны бюджэт. Сваю акцыю пратэсту віцебскія прадпрымальнікі называюць «аднадзённым папераджальным спыненьнем працы», але не выключаюць, што з 1 ліпеня працу давядзецца спыняць наогул.**

Ініцыятыва зладзіць акцыю пратэсту належыць арганізацыйнай групе па стварэньні прафсаюзу індывідуальных прадпрымальнікаў «Разам». Кіраўніца арганізацыйнай групы Ірына Яскевіч, старшыня рады віцебскага гандлёвага цэнтру «Эвіком», адзначае салідарнасьць калегаў: «Смаленскі» рынак, «Паўднёвы» рынак, гандлёвы цэнтар «Беларусь» — там індывідуальныя прадпрымальнікі зачыніліся цалкам, апрача харчоў і садавіны. «Полацкі» рынак — таксама на 100%, за выключэньнем хіба аднаго чалавека, што гандляваў джынсамі. Гандлёвы цэнтар «Эвіком» зачынены амаль цалкам. Увогуле, лічу, спыніла працу 90% прадпрымальнікаў».

**Закрыцьцё стала нечаканым для пакупнікоў. У павільён на «Смаленскім» рынку людзей наогул не пускалі: ахоўнікі прычынаў не тлумачылі, але казалі, што гандлю сёньня няма. На «Эвікоме» прадпрымальнікі вывесілі аб'явы разнастайнага зьместу: «Тэхнічны перапынак», «Паехалі па тавары», «Пайшлі ў падатковую», «6 чэрвеня — выходны дзень». Гэта захады бясьпекі: за ўдзел у страйках адміністрацыя гандлёвых аб'ектаў пагражае пазбаўленьнем месцаў арэнды. На «Полацкім» рынку нехта вырашыў не хавацца і наўпрост напісаў пра страйк. І пакупнікі ставяцца да гэтага з разуменьнем:**

«Я езьдзіла на „Эвіком“ — там не працуюць, потым на „Полацкі“ прыехала, там аб'яву ўбачыла, што страйкуюць. Я так зразумела, што будуць нейкія дадатковыя праверкі якасьці, і гэта грошай вялікіх каштуе. Дык што і для нас тавары будуць даражэйшыя. А куды ўжо даражэй? І так нічога ня купіш... І нам гэта ня трэба, і ім лішні клопат. Дык што правільна робяць, што страйкуюць!»

Заўтра, калі прадпрымальнікі ўжо выйдуць на працу, ім давядзецца тлумачыць, што такое тэхнічны рэглямэнт Мытнага саюзу, і якія наступствы будзе мець афармленьне новых дакумэнтаў пра якасьць і бясьпеку тавараў лёгкай прамысловасьці. Гэта найперш грашовыя выдаткі — як для гандляроў, гэтак і для пакупнікоў, кажа прадпрымальніца Ірына Яскевіч:

«Каб выпрабавалі твой тавар на бясьпечнасьць, трэба здаць 5 узораў кожнага віду тавару. З зь іх потым вернуць, а 2 — пашкодзяць. І калі ў цябе было ўсяго



5 адзінак, трэба будзе кошт гэтых двух дадаць да астатніх трох. І заплаціць за саму экспэртызу. Мы лічылі: каб мець такі самы асартымэнт тавару, як на цяперашні момант, прадпрымальніку трэба будзе заплаціць ад 48 да 62 мільёнаў. Таму пальчаткі стануць неверагодна дарагія, парасоны — надзвычай дарагія»...

Прамысловыя тавары будуць правяраць на бясьпеку паводле двух дзесяткаў пунктаў. Праўда, прадпрымальнікі ніколі раней ня чулі, каб ад іхнага адзеньня ці абутку нехта захварэў... Да таго ж яны не разумеюць, чаму адказнасьць за якасьць ускладзеная на іх, а не на вытворцаў. І калі тэхнічны рэглямэнт тычыцца Мытнага саюзу, дык навошта пацьвярджаць у беларускіх цэнтрах стандартызацыі якасьць ужо сэртыфікаванага расейскага тавару або рэчаў зь іншых краін, набытых у Расеі, — яны ж мусілі прайсьці праверку яшчэ пры ўвозе ў саюзнаю дзяржаву?

**Першапачаткова тэхнічны рэглямэнт Мытнага саюзу павінен быў уступіць у сілу яшчэ з 1 студзеня 2013 года, але пасьля мінулай хвалі незадавальненьня была дадзеная адтэрміноўка — да 1 ліпеня. Аднак прадпрымальнікі хочуць не адтэрміноўкі, а перагляду ўмоваў рэглямэнту. Бо паўторныя праверкі прадпрымальнікі лічыць чарговай спробай папоўніць дзяржаўны бюджэт. Або нават спробай зьнішчыць прадпрымальніцтва ў Беларусі. Таму Ірына Яскевіч кажа пра неабходнасьць падтрымкі віцебскай акцыі пратэсту:**

«Выканаць патрабаваньні тэхнічнага рэглямэнту цяжка, таму вы таксама можаце нас падтрымаць, прадэманстраваць уласнае стаўленьне, „зачыніцца“ на нейкі дзень... І тады прайсьці міма, не заўважыць нашага патрабаваньня будзе ўжо немагчыма!»

Зварот віцебскіх прадпрымальнікаў да ўраду краіны накіраваны ў Палату прадстаўнікоў і дастаўлены ў адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі.

## Аднаўленая крымінальная справа па факце зьбіцьця віцебскага актывіста партыі БНФ



Па сканчэньні чатырох месяцаў з моманту ўзбуджэньня крымінальнай справы па факце зьбіцьця сябра партыі БНФ **Аляксея Гудзіліна** ён зьвярнуўся ў сьледчы камітэт, каб даведацца, як ідзе расьсьледаваньне справы. Высьветлілася: справу пасьпелі прыпыніць, прычым афіцыйна праінфармаваць пра гэта пацярпелага чамусьці не палічылі патрэбным. Затое літаральна на наступны дзень пасьля накіраваньня звароту ў СК была прынятая пастанова аб аднаўленьні справы, надоечы актывіст атрымаў адпаведнае паведамленьне.

Нагадаем, Аляксей Гудзілін быў зьбіты 14 сьнежня 2012 году. На актывіста напалі двое. Вонкава яны былі падобныя да супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Адзін з нападнікаў паказаў нейкае пасьведчаньне, але разабрацца, што гэта было за пасьведчаньне, Аляксей Гудзілін не пасьпеў. Яго сілай узялі пад рукі і запхнулі ў машыну, што стаяла побач. Там з хлопцам распачалася «прафіляктычная гутарка». Маладому чалавеку сказалі, каб ён больш не «піярыў» партыю БНФ. А каб сказанае было лепш засвоенае, адзін з нападнікаў нанёс яму два ўдары ў твар. Пасьля гэтага актывіста выкінулі з машыны і зьніклі. Лекары, да якіх зьвярнуўся Аляксей Гудзілін, паставілі дыягназ «Закрыты пералом костак носу».

## *Старшыня райсуду лічыць, што Пётар Іваноў парушыў Крымінальны кодэкс*

**Віцебскі грамадзкі дзеяч Пётар Іваноў прасіў кампэтэнтныя органы ўзбудзіць крымінальную справу супраць судзьдзі Валянціны Кісьмярошкінай**, якая, на ягоную думку, сьвядома парушыла закон і несправядліва пакарала яго штрафам у памеры 4-х мільёнаў рублёў па адміністрацыйнай справе. **Аднак, выглядае, да крымінальнай адказнасьці могуць прыцягнуць не судзьдзю, а самога Пятра Іванова**: па гэта да начальніка ўпраўленьня Сьледчага камітэту па Віцебскай вобласьці Ўладзімера Шалухіна зьвярнуўся старшыня суду Першамайскага раёну Віцебску А.А. Андрушэнка.

«Што тычыцца заявы Іванова пра ўзбуджэньне крымінальнай справы, пададзенай ва УСК, то аналіз яе зьместу... дае падставы для праявдзеньня наконт яе праверкі... на прадмет наяўнасьці-адсутнасьці ў дзеяньнях Іванова прыкметаў складу злачынстваў, прадугледжаных артыкуламі 369, 391, 400 КК Рэспублікі Беларусь», — піша галоўны судзьдзя Першамайскага райсуду кіраўніку сьледчага камітэту. Копію свайго ліста ён накіраваў пракурору Віцебскай вобласьці Генадзю Дыско.



**Артыкул 369 Крымінальнага кодэксу (зьнявага прадстаўніка ўлады) прадугледжвае ў якасьці максымальнага пакараньня абмежаваньне волі на тэрмін да 2-х гадоў. Астатнія артыкулы, якія, згодна са старшынём райсуду, парушыў Пётар Іваноў: артыкул 391 – зьнявага судзьдзі (можа карацца абмежаваньнем волі на тэрмін да 3-х гадоў), артыкул 400 – загадзя фальшывы данос (пагражае абмежаваньнем волі да 2-х гадоў).**

Нагадаем, 17 красавіка спадар Іваноў быў аштрафаваны судзьдзёй Кісьмярошкінай на 40 базавых велічынь. Іваноў стаў сьведкам затрыманьня актывістаў БХД Аляксея Кішчука і Станіслава Лаўрэнава, якія ладзілі акцыю ў падтрымку палітвязьняў, і падаў скаргу на дзеяньні міліцыянтаў, якія, паводле ягоных сьцьверджаньняў, зьдзяйсьняючы затрыманьне актывістаў, парушылі правілы дарожнага руху. Паводле яго заявы была ўзбуджаная адміністрацыйная справа, але ў выніку пакаралі не міліцыянтаў, а Іванова — за фальшывае сьведчаньне. А заадно і за супраціў праваахоўнікам, якія яго затрымлівалі. Суд чыніла судзьдзя Кісьмярошкіна, а сьведкамі па справе выступілі... міліцыянты.

Цяпер, здаецца, гісторыя можа паўтарыцца, але ўжо з больш сур'ёзнымі наступствамі для Пятра Іванова. Бо гаворка вядзецца не пра адміністрацыйнае правапарушэньне, а пра крымінальнае злачынства.

**«Злачынцы» – менавіта гэтак у сваёй заяве ў Сьледчы камітэт віцебскі змагар за праўду, просячы прыцягнуць іх да адказнасьці, назваў судзьдзю Кісьмярошкіну і тых міліцыянтаў, што сьведчылі супраць яго.** Але, на думку старшыні райсуду, «злачынцам», мабыць, зьяўляецца сам Іваноў.

Больш таго, «абразьлівыя фармулёўкі і выказваньні на адрас судзьдзяў, пракурорскіх работнікаў, супрацоўнікаў міліцыі, іх шальмаваньне ў сувязі з ажыцьцяўленьнем імі сваіх службовых абавязкаў у адпаведнасьці зь іх кампэтэнцыяй, вызначанай законам, дыскрэдытуюць ня толькі канкрэтных судзьдзяў і прадстаўнікоў улады, але і ў цэлым падрываюць аўтарытэт праваахоўнай сыстэмы і судовай улады, сьведчаць пра ўсёдазволенасьць і пачуцьцё беспакаранасьці ў Іванова, што ёсьць недапушчальным і павінна цягнуць меры рэагаваньня, прадугледжаныя законам», — гэтак піша старшыня суду начальніку Сьледчага камітэту вобласьці.

Такім чынам, сьледчы камітэт мусіць правесьці разбор па дзьвюх супрацьлеглых заявах: На шалях з аднаго боку заява праўдалюба пра тое, што судзьдзя і міліцыянты — злачынцы, з другога — заява старшыні суду пра тое, што згаданы праўдалюб, магчыма, абгаварыў першых і таму сам злачынца.

**Можна здагадацца, як павернецца справа. Тым ня менш варта пачакаць з прагнозамі. Чым усё скончыцца – пакажа найбліжэйшая будучыня. Працяг будзе...**

# Праваабаронца просіць распачаць адміністрацыйны працэс у дачыненьні да судзьдзі



**Павал Левінаў** зьвярнуўся да начальніка УДАІ УУС Віцебскага аблвыканкаму з заявай аб правапарушэньні, сьведкам якога ён стаў. Падзея адбылася ля будынку абласнога суду: судзьдзя **Ірына Смалякова**, якая выйшла з суду, вырашыла перайсьці дарогу, але пайшла не да пешаходнага пераходу, а напрасткі па праезнай частцы ў неналежным месцы, ствараючы перашкоду руху транспарту. На заўвагу праваабаронцы судзьдзя адрэагавала толькі ўхмылкай, паведаміў Павал Левінаў.

У сваёй заяве праваабаронца просіць начальніка дарожнай аўтаінспэкцыі распачаць адміністрацыйны працэс у дачыненьні да Ірыны Смаляковай за парушэньне ёй правілаў дарожнага руху. На думку Левінава, адной з задачаў адміністрацыйнага працэсу зьяўляецца, каб кожны, хто зьдзейсьніў правапарушэньне, незалежна ад свайго рангу і пасады, быў падвергнуты справядліваму спагнаньню.

«Палажэньні артыкулу 24.4 "Заведама непраўдзівыя тлумачэньне або заява" Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях мне вядомыя і зразумелыя», — зрабіў прыпіску Павал Левінаў пры канцы сваёй заявы да начальніка ДАІ. Мабыць, пішучы гэта, ён успомніў, як зусім нядаўна віцябчук **Пётар Іваноў** таксама прасіў пакараць за парушэньне правілаў дарожнага руху прадстаўнікоў улады. Але тады ў выніку былі пакараныя не міліцыянты, якія на думку Іванова зьдзейсьнілі правапарушэньне, а сам Іваноў — ён нібыта абгаварыў супрацоўнікаў міліцыі, чым парушыў згаданы артыкул 24.4.

Справа магла б падацца малазначнай, каб пра яе згадваць у навінах, але яна можа стацца своеасаблівым тэстам на тое, ці зьяўляецца Беларусь прававой дзяржавай. Апошнім часам у дні меркаваных акцыяў апазыцыі супраць актывістаў кідаюць узмоцненыя сілы супрацоўнікаў ДАІ. Пастаянна дзяжураць яны і ля судоў, калі там адбываюцца гучныя працэсы, якія прыцягваюць увагу грамадзкасьці.

Палююць даішнікі ня толькі на кіроўцаў машын, якіх спыняюць і затрымліваюць часьцяком па надуманых прычынах, але і на актывістаў-пешаходаў: крый Божа, калі хтосьці зь іх пяройдзе дарогу на адлегласьці ў адзін мэтар ад «зэбры», — штрафу, а то і затрыманьня не пазьбегнуць. Ці пакараюць цяпер судзьдзю згодна з артыкулам КаАП, паводле якога нярэдка караюць апазыцыянэраў і грамадзкіх актывістаў? Начальнік УДАІ УУС Віцебскага аблвыканкаму, калі будзе разьбірацца з заявай Паўла Левінава, мае цудоўную магчымасьць прадэманстраваць, што ў нашай краіне перад законам усе роўныя.

# Гарвыканкам папрасіў прабачэньня за фэстываль «Газпрому»

**Віцебскі гарвыканкам прынёс выбачэньні жыхарам дамоў, разьмешчаных побач з плошчай Перамогі, за канцэрты, якія да глыбокай ночы ладзіліся пад іх вокнамі падчас фэстывалю «Факел». Аднак цешыцца з таго, што цяпер пасьля 23:00 тых, хто жыве паблізу самай вялікай плошчы ў Беларусі, ня будзе турбаваць шум ад гукаўзмацняльнай апаратуры, не выпадае.**




Тыя, каму «пашчасьціла» жыць недалёка ад плошчы Перамогі ў Віцебску, спадзяваліся, што ў справу ўмяшаецца асабіста Аляксандар Лукашэнка — менавіта да яго яны зьвярнуліся, каб ён «цьвёрдай рукой» аднавіў іх правы і законныя інтарэсы, а ў гарадзкі і абласны выканкамы накіравалі копію свайго звароту. Але прэзыдэнт ня стаў разьбірацца ў сытуацыі. З адміністрацыі прэзыдэнта іх зварот быў перанакіраваны ў Віцебскі аблвыканкам, а адтуль — у гарвыканкам.

Адказ гарвыканкаму: Забаўляльныя імпрэзы позна ўвечары на плошчы будуць праводзіцца і надалей. Праўда, як запэўніў намесьнік старшыні Ўладзімер Шлома, толькі ў выключных выпадках — у дні дзяржаўных сьвятаў і падчас фэстываляў «Славянскі базар». Таксама «сіла гучаньня музычнай апаратуры будзе скарэктаваная з улікам спэцыфікі разьмяшчэньня жылых дамоў і з улікам Вашых пажаданьняў», — паабяцаў спадар Шлома аўтарам калектыўнай скаргі.

**Аўтары звароту да ўладаў, якія прасілі больш не праводзіць канцэрты на плошчы Перамогі позна ўвечары і ўначы, такім адказам не задаволеныя. Яны з жахам чакаюць чарговага «Славянскага базару», падчас якога, выглядае, ім ізноў будуць не даваць спаць...**

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.